Алесь Каско

# НАБЛІЖЭННЕ

Вершы



Мінск
«Мастацкая літаратура»
1989

ББК 84 Бел 7
К 28

Лирический герой стихов Алеся Каско открыт в своих переживаниях, последователен в утверждении высокой духовности, искренности и доброты, иногда склонен к самоиронии.

В цикле стихотворений «Ростки», завершающем книгу, осмысливаются вопросы экологии, связанные с родиной поэта — Полесьем.

К $\frac{4702120202-001}{М 302(03)-89}$ 51—89

ISBN 5-40-00196-2

* * *

Навошта я расчульваць вас хачу:
не да сябе — да роснае травінкі,
да гэтага вясёлага дажджу,
да песень жней з палескае глыбінкі?

Да гэтага дзіцяці, што бяжыць
з далёкіх летаў сувязным нязменным
цераз курган, дзе вой-салдат ляжыць,
аддаўшы сны наступным пакаленням?..

Нібы няўцям, што сёння ўсё радзей
вы схільныя расчульвацца. Вы знаўцы
ўсіх тайн прыроды, сутнасці падзей,
нат мовы незямных цывілізацый.

За вашу мудрасць дорага плачу —
няведаннем уласнага дзівацтва,
чаму, нашто любові вас вучу
без боязі адсталым называцца.

Скуль тая цяга — праз абсяг вякоў
не забываць і не цурацца звычкі
расчульваць сэрцы, быццам браць з віроў
і саграваць астуджаныя знічкі?

# ІМЁНЫ

За шмат вякоў нямногія імёны
гісторыя нашчадкам зберагла.
І сэнс не толькі ў тым, што час — імгла,
што не дайшлі паданні і пісьмёны.

Імёны многіх лёсам спапялёны,
каб на шляхах да праўды і святла
паўсталі постаці, якіх змагла
нам памяць захаваць з часоў замглёных.

Названыя гісторыяй — грымяць!
І сёння на іх славу, на імя
раўняемся мы з правам несумненным.

Дый хто з нас хоча безыменным стаць?
Але названы — трэба памятаць! —
збіральны вобраз тысяч безыменных.

# ПЕРАЕМНАСЦЬ

*У. А. Калесніку*

«Нялёгка будзе маладым,
калі бывалыя салдаты
цераз мяжу апошняй даты
ў легенды сыдуць назаўжды...» —

Нам кажуць так не ўпершыню,
і азіраемся ў трывозе
на ўладкаваных пры абозе,
далекавата ад агню.

Надзеі мала,
пабягуць...
Агонь — ён не для ўсіх стыхія.
І ўсё важней нам: хто, якія —
у злітным, шчыльным ланцугу?

Яшчэ ўзмужнелыя не ўсе,
не ўсе напоўнены адвагай,
затое — вераю
і прагай
служыць Радзіме і Красе.

Ёсць, дзякуй богу, і цяпер
каму павесці за сабою
і лініяй перадавою
трымаць аголены свой нерв.

Яно вядома: не ў вайну,
тут іншы фронт...
А ўсё ж ці проста
ўставаць і крочыць поўным ростам,
браць і адстойваць вышыню?

І калі цяжка — кожны раз
нам свецяць лёсы агнявыя,
каб ведалі: не бог нас крые —
салдаты прыкрываюць нас.

# СВЯТА СНЕГУ

Усё-такі добра!
Усё-такі добра,
што ёсць мне зайсці да каго,
каб даць «добры дзень»,
затрымацца нядоўга
на свяце —
вітанні снягоў.
Ад іх пасланец, запрашаю:
зірніце,
як пульхна кладзецца на шкло
вясновага ліўня,
асенняй зарніцы
застылае сёння святло.
Быць году і новаму
без пустацвету —
такія снягі нездарма.
І вы не тужыце часінаю гэтай,
што выпала рана зіма.
Што ж, беляцца скроні...
Дык гэта ж — ад снегу!
І, пэўна, яшчэ ад таго,
што вы не жылі без турботы
і спеху
ад самага ранку свайго.
Бывалі гады, калі мерзлі на снезе,
а ўсё-такі — любіце снег!..

Няхай
          весяліцца кампанійка недзе
да золкавай стыні ў акне.
Яны, аднагодкі мае, ці паверацць
у свята — вітанне снягоў?..
У вас пасяджу я, шчаслівы без меры,
што ёсць мне зайсці да каго.

# ПАМЯЦЬ БЕЛАРУСІ

Радзіму Белаю завуць.
Бярэзнікі. Тут кожны лісцік
свіціцца...
І — не абмінуць! —
як неад'емнасць — абеліскі.
Над імі, паміж гонкіх дрэў,
і ўдзень не патухаюць зоркі.
Той запаліў іх, хто згарэў...
Той — памяць наша,
смутак горкі.
На ўскрайку гаю — валуны.
І сям-там ямы — напамінам,
што поле звонкай збажыны
было калісьці полем мінным.
А там, дарогай палявой,
ідуць бярозы зноў.
Іх строі
святочна-белыя.
Душой
па трое дзеліш іх.
Па трое...
«Радзіма, светлы край!..» Але
змаўчыш і радасць ацвярозіш
той праўдай, што маглі святлей
свяціцца белыя бярозы.



Не зраўнуйцеся з ветрам.
Яму ж усё роўна,
чые лодкі люляць
і травы расчэсваць,
чые ветразі рваць
і разгойдваць званы.

З валуном не зраўнуйцеся.
Яго раўнаважыць
у хвілі і вечнасці
маўклівасць каменная —
разбіваецца келіх
ці пырскае кроў.

Не зраўнуйцеся з птушкай
маленькай — жуланам,
што ведае спевы
дразда, салаўя, берасцянкі —
рознага птаства,
матчынай песні апроч.

З дварняком не зраўнуйцеся.
Лёгка выклікаць гнеў у яго.
І яму ж
лёгка зяпу заткнуць
зычным словам, дубцом
ці... скарыначкай хлеба.

## НАД ЧЫРВОНАЮ КНІГАЙ

За чыстых і пяшчотных неспакой,
за тых, чый лёс нязменліва балючы:
лілеяў меней, меней васількоў...
Калі
        жыццё выстойваць іх навучыць?

З наіўнага пытання дзівакоў
смяецца пырнік гнуткі і паўзучы.
Як ты ні рві яго, чым ні атручвай —
жыве
        на гонях зменлівых вякоў.

# З ГЛЫБІНЬ

Даўнія песні — радзей і радзей,
голас мяняем і слых.
Спеўны гурток — з паважаных людзей,
толькі ўсё менш маладых.

Рукі артыстаў у мазалях,
шрамах — ад працы, вайны...
Жыта яны залацяць у палях,
песні люляюць яны.

Даўнія чуем — здзіўляемся ім...
Вёсцы ж — паклон і хвала:
хлеба часамі не мела зусім,
з песняй — заўсёды была.



Не будзем, давайце не будзем —
адстаўце, пакіньце віно.
Даўно не глядзелі мы людзям
у вочы. І свету — даўно.

У вочы азёрам, нябёсам,
світальнаму сонцу, ільнам...
З прыродаю пераплялося
жыццё — ёю дадзена нам.

Сляпцы, гэта ж наканавана —
не здзейсніць уцёкаў... Дарма:
за мройна-празрыстым туманам
святла і дарогі няма.

Адзінае толькі — вяртанне —
і здольнае аберагчы
ад змроку, пакінуўшы ў тайне
спакусы і спробу ўцячы.

Усіх пакаленняў нашчадкі,
не баймася вочы падняць,—
прыняць, як прырода, загадкі,
як людзі, адказаў шукаць.

# ФАЛЬКЛОРНЫ КАНЦЭРТ

Не вяселле — сцэнічны абрад,
ды забылі пра сцэну артысты:
сват — да слова астатняга сват,
гармапісты — і ёсць гармапісты.

Смехам — смех, гаманой — гамана,
каравай — іхні лёс на абрусе.
Ручнікі шчэ з таго палатна,
што бялілася ў росах на лузе.

Выцінае скрыпач кракавяк
на прадзедаўскай,
на самаробнай.
Аж палаюць кабат, андарак,
ад прытупаў заняўшыся дробных.

Непадробная цісне сляза —
вунь старая кабета не ў ролі:
«От жа дзеўка, каза-страказа!..»
Хоць такой і сама была калісь.

Мех дарункаў на куткім стале:
маладым сыплюць поўнаю жменяй.
Хай не сёння, на сцэне,— але
іх, дальбог жа, напраўду пажэняць.

Аддадуць ім, як скарб,
у пасаг
паўзабытыя песні і словы...
І гуляе —
аж пырскі ў вачах! —
рэй вясёлы, вясельны, вясковы.

2 Зак. 1530



З якой паўстала даўніны?..
Паўзмрок, дымок ад «беламорын».
Удвух —
я ў шчасці,
ён у горы —
званілі ў келіхі адны.
Дарогі розныя сюды.
Нас паяднала
выпадковасць
за кутнім столікам-падковай,
што зблытаў лёсы і гады.
Быў гімн юнацтву і шляхам,
плыў рэквіем у дні бязвер'я...
Пра гэта ведаю цяпер я,
бязвер'е перажыўшы сам.
Цяпер я ведаю:
прыйшоў
мой субяседнік спавядацца;
я ж
вымушаў яго смяяцца,
крывіць збалелаю душой.
Мог выслухаць — сам гаманіў,
мог памагчы — чытаў санеты.
Крычаў ён хрыпла:
«Зразумей, ты!..»
Не разумеў: шчаслівы быў.



Зямля
          не любіць пуставаць —
жадае быць жытнёвым полем;
не будзеш сеяць — і куколлем
пачне патроху зарастаць.

Душа
          не любіць пуставаць —
жыве надзеямі на шчасце;
будзіць не будзем — і ў мяшчанства
пачне паціхеньку ўрастаць.



Мой час не азірнецца — дзе ж там! —
бяжыць, не помніць пра мяжу.
А шляху колькі? Можа, рэшта...
Спынюся. Кайстру развяжу.

Які ён, крэўны мой нажытак?
Дарожны пыл. Палын-трава.
Сярод рудых загонаў жыта
мне б ад ілюзіі ўтрываць.

Скронь свежы вецер ахалодзіць,
праніжа одумам наскрозь:
які ж твой статус у прыродзе
і ці ў народзе водгук ёсць?

На вуснах — горкі смак аскомін:
пясчынка, кропля, дробны знак!..
Ды хоць бы знак той усвядоміць,
а час адкажа, што і як.

І наракаць на бег нягожа,
час — справядлівы, не скупы:
і жытам судзіць прыдарожным,
і шляхам, дзе палын і пыл.

## СУМЛЕННАЕ СЛОВА

Яно — душы першаасnова:
там, у нязмернай глыбіні,
ёсць боль — боль нараджэння слова,
якога нельга запыніць.

Там слова — як жарынка праўды:
дыхне жыццё — яно ярчэй
зацепліцца... Ніякай рады —
душу нясцерпна апячэ.

Але, магчыма, і да шклянкі
пацягнешся, каб астудзіць
віном ці кропляй валяр'янкі...
Дарма: сумленню ў слове — быць!



Сёння восень ці вясна?
Вецер. Набрыняла рама.
Грань надвор'я не відна
і настрою грань — таксама.

Што былое не вярнуць,
тое ведаю бясспрэчна,
дык чаму ж не зазірнуць
у імклівы дзень сустрэчны?

Дзень... Ён прыйдзе, як цягнік,
у яго — абавязковасць:
прыпыніўся, рушыў — знік,
стаўшы памяццю часткова.

Можа, руху аднаму
і даюцца сэнс і выйсце,
і пакутаваць таму,
хто шукае іншых ісцін.

Хай міне душу застой —
на дарогу загадаю...
Заўтра восеньскі настрой
па-вясноваму згадаю.

# ГОСЦЬ МОЙ, ВЕЦЕР

Балкон адчыніўся — фіранкі ўзняліся,
і нехта ступіў, але крок не чуцён.
— Ты хто? І чаго?
— Я прынёс табе лісця.
— Не восень...
— Памёр у чаканні твой клён.
Сярдзіта двайнымі філёнкамі стукнуў:
— Дакуль межаваць людзям гордае «я»?
— Ты вецер,— спытаў я,—
ты мой неадступнік?
— Сумленне. Нядаўняя памяць твая.
— Не радасць прынёс ты, а лісце сухое...
— Там высахла рэчка.
— Што ж мог я, прабач?
Слязамі напоўніць?
— Магчыма, і тое,
а можа, патрэбен быў гнеў, а не плач.
Змяшаў мае аркушы з лісцем — адпрэчыў:
— Паўвёскі калісьці паэтаў было.
Ты ведаў іх?
— Ведаў.
— І не ўвекавечыў:
апошняя казка пайшла за сяло.
Мне горка:
— Павер, я збіраўся прыехаць...
— Збіраўся прыехаць ты шмат да каго,—

злаcліва сказаў ён.— То немач, то нехаць,
а то, прызнавайся, і яд?.. Алкаголь?..
Працяў мяне холадам, бы ў перадзім'е:
— Каму прысягаў ты і кляўся каму?
— Матулі. Вяскоўцам. Каханай. Радзіме.
— А выйшла?..
— Ты лічыш — сабе аднаму?
Стрываць было цяжка:
— Я ж голы і босы,
ні славы, ні чыну — нічога няма.
— Ты леным слывеш, безгалосым...
— Пабойся!..
— Бязвольны, на бога ківаеш дарма.
Хацеў я маліць:
— Дзе ратунак і выйсце?
Ды вецер пайшоў, прычыніўшы балкон.
Папераў шматкі...
Пажаўцелае лісце...
Мой сумны рахунак і горкі мой плён.
Яны, нежыццёвыя, мелі значэнне,
канец і пачатак адзін у іх — там,
адкуль узяў моцы я на ачышчэнне
і дзе штосьці значыць так прагнуў і сам.

## ГАМЛЕТ 70-х

Быць сучасным — ці ж азначае
безаглядна свой час сцвярджаць?
З двух адно: пракрычаць з адчаем
ці пакутліва прамаўчаць...

## ЗАБЫТЫЯ КНІГІ

Іх аўтар быў нібы закляты:
гарэў паэзіі агнём
да першай пераменнай даты,
каб тленам стаць і забыццём.

Ці, можа, выраку заспеў ён
яшчэ тады, як звадзіў лёс
браць славу ад часоў няпэўных,
няпэўных радасцей і слёз?

Якія ўзвышаныя строфы
ствараў у гэтых днях глухіх
ён, безаблічны, як эпоха!..
Эпоха і забрала іх.

Але імя яго часамі —
як засцярога, напамін...
І пыл з ягоных кніг страсаем,
нібы з паднятых дамавін.

## ЭВАЛЮЦЫЯ

I знік хаос
дзеля вады і сушы,
і дараслі амёбы да звяроў,
а малпы выйшлі ў людзі.
Самы дужы
стаў чалавек: стварыў саміх багоў.
Стварыў і адцясніў.
Узвёў ён дамбы
для рэк і мораў,
печы — для агню.
(І дыназаўра ў клетку ён загнаў бы,
калі б той у нябыт не сігануў.)
Стаў цесны
чалавеку
свет вялікі.
Напяў ён цяглі ды напружыў мозг,
спусціўся ў нетры атама
і ўсклікнуў:
«Вось ён, былы і... будучы хаос!»

## ПЯСОЧНЫ ГАДЗІННІК

Дзве долі адзінства;
перасыпаецца час
з адной у адну...
У ім — пакаленні:
паўтараюцца ў нас,
паўтараемся ў кімсьці.
Так доўга жывём
і ўсё гэтак жа прагнем
разумення і міру.
У век электронікі —
той жа гадзіннік:
час не старэе.

# ЛІСЦІК

Ён нарадзіўся позна:
кляновыя лісты
атрымлівалі позвы
на восеньскую стынь.

А ён — яшчэ зялёны
і ўсім відзён здаля —
піў сок з галіны клёна,
зусім як немаўля.

Мо й не паспеў, гарэза,
адчуць сваё быццё...
Смуткую: дагарэла
асенняе лісцё.

Я ведаю — калісьці,
вясной, міне бяда,
а толькі... больш, чым лісця,
мне лісціка
шкада.

* * *

Я ўведаў: сэнс — на вастрыі ляза,
так абвастрыўся кожны ў свеце лёс...

...Скацілася матуліна сляза
за незлічонасць чалавечых слёз.

# ГАННА

Калі настаў апошні вечар,
ты прычыніла ветлы дом,
пайшла...
Палілася будзённа ў печы,
і дом
напоўніўся цяплом.
Яго не выхаладзіў студзень,
гарэў агонь,
і па начы
сюды, як і бывала, людзі
зайшлі з дарогі адпачыць.
І ўшанавалі запавет твой:
нанова абагрэлі дом...
Бабуля,
грэюцца дагэтуль
табой пакінутым цяплом.



Змяркаецца.
Асфальт здалёку —
адбіткам вымытых акон.
Ускрайкам вуліцы працокаў,
як па лядку, нясмелы конь.

Пазалацелі ад саломкі
таполяў белыя камлі...
Жанкі сышліся ля калонкі,
бы ля калодзежа калісь.

Яны, лічы, і не вяскоўкі,
аднак па тым іх пазнаюць,
з якою ласкай грэюць слоўкі,
калі «Купалінку» пяюць.

## ПЕРАГРУЗКІ

Ах, перагрузкі...
Абмахваем кропельку поту.
І тут жа кладземся на воблака
і з ветрам бязважкім лунаем
над стосам папераў нячытаных,
не ў змозе да іх дацягнуцца.

Ах, перагрузкі...
Атульваем цішаю сэрца.
І нават праз вочка дзвярное
бяды не пускаем суседскае,
а той, што гукае па провадзе,
адказваем: «Чуем вас кепска».

Ах, перагрузкі...
А ўжо ж яны зніклі без следу?
У целе, на сэрцы так лёгка,
што прагнем хоць кропелькі поту —
у кніжцы прыгодаў ды ў гэтай,
як бо яе? — аэробіцы.

3 Зак. 1530

# ЦЫГАНСКІЯ ЎВАХОДЗІНЫ

Носяць клункі — засяляюць дом,
ходзяць нехаця, нібы стрыножаны.
Мацаюць вачыма
насцярожана
нават павуцінку пад акном.
Нізка — столь,
на паўсвятліцы — стол,
сонца і прасторы
крыху болей бы...
Безаглядны — сёння пераборлівы,
грэблівы стаў — голы як сакол.
Дойдзе слёз, здаецца, за пятак,
знойдзе ён хады ўсе, знойдзе выхады!
Але час
не выйграць і не выгадаць:
гэтак — столь,
дый стол, нарэшце,— так.
Дом прыбраны. «Баця» — на балкон,
на неверагодныя агледзіны:
стане
не прададзены, не зведзены,
сточаны вятрамі верны конь?

# ПІЛАТАЖ

Быццам рыбіны ці дэльфіны,
самалёты —
у вышыні.
Ліпень —
голыя смажыць спіны,
ды ні з месца ніхто, ані.

Нецярплівы
не зварухнецца:
прыкаваны да неба зрок.
Пад нагамі
зямля хіснецца,
калі зробіць пілот віток.

Набяруць самалёты хуткасць
ды на хуткасці —
у віраж...
— Пашалелі,— сказаць
ціхутка
ледзь паспее стракаты пляж.

Потым новую б'е трывогу:
пераджыць бы яшчэ «пятлю».
— Апускаюцца!
— Дзякуй богу!..
Апусціліся на зямлю.

— Група выканала палёты,—
скінуў шлём галаўны пілот.
...Спачувальнікі,
не пілоты
выціраюць гарачы пот.

* * *

Нясказаным выбаляць грудзі,
бы высахне студня да дна,—
і ўсім, хто сасмагнуў, не будзе
ні кроплі
з наступнага дня.

І стане для творцы ён судным:
дзе боязь — там тло, палыны...
А людзі?
Для новае студні
адкрыюць крыніцу яны.

# КАЛІ Б...

Калі б жылося два вякі,
зрабіўся б кволы я і ніцы;
як жорны, сталі б жаўлакі,
дарэшты ўсохліся б вачніцы.
А гэта ж толькі паўбяды —
зрабіла б старасць верадлівым,
і праўнук бы даваў
вады
ў чаканні млявым і здрадлівым...
І ўсё ж сапраўднаю бядой
было б вось гэта:
засталіся б
за даляглядам і смугой
мае вятры,
сум жаўталісця,
маё вясло — з тваe рукі,
мая няўрымслівасць зямная,
мой поўнаўладны век,
які
я і на два не прамяняю.



О лёс мой, выказацца дай,
не забяры мяне заўчасна
у тую далеч, дзе так часта
мне будзе сніцца любы край.

Яго вяснянкі, пошум дрэў
жывуць ва мне, як сіла ў ветры,
і спеляць збуджаныя нетры
душы
мой заўтрашні напеў.

Дай слову добраму ўзрасці,
пакуль я на жыццё багаты.
Шчаслівы сейбіт і араты,
на жніва часу адпусці.

Не стане моцы — і няхай! —
у памяці, руцэ, у зрэнцы...
Усё вазьмі — і толькі сэрца
пакінь
і выказацца дай.

# НЕЎМІРУЧЫ ЦЕСЛЯ

*Рэстаўратарам Мірскага замка*

Пад вежамі — сутонне дзён;
змяркаинем, а ці ранкам шэрым
агеньчык свеціцца праз дзверы
і стук сякеры стуль чуцён.

Як вабіць кліч той у муры!
Глухім нікога не пакіне...
...Скляпенне. У старым каміне
зырчэе зарыва зары.

Пад хісткім блікам агнявым,
якому ў сутарэнні цесна,
кавалкі дубу чэша цесля —
і годнасць, і спакой у ім.

Які ўжо час яго рука
чаруе з цвёрдае драўніны
насцілы, рамы, крыжавіны,
ва ўсім — ніводнага цвіка.

«Скажыце, майстар, вы з Міра?» —
«З Міра... А мо і не адгэтуль,
сюды ж прыходзілі з паўсвету.
Мой род мне гэты кут абраў.

Былі ў сівых вяках муры,
пабудаваныя і мною,—
змацоўваў іх наш род крывёю,
вунь камень чырванню гарыць.

Сціраўся камень, дуб згніваў —
і кожны замяняўся новым,
знікалі княжанні і змовы,
а род мой жыў і будаваў...»

І вось таму ў сутонні дзён,
змярканнем, а ці ранкам шэрым
агеньчык свеціцца праз дзверы
і стук сякеры нам чуцён.



Яе светласць мова...
Чысты свет дзяцінства,
свет вясковы.
Золак звонкі.
Студняў, вёдраў перазовы.
Гаманкое лісце.
Яблык гупае ружовы.
Школа — з гулкім рэхам,
водарам сасновым.
Русакосая суседка
з «Родным словам»...
Надвячорак. Песня.
Зноўку — аб шчымлівым
і заўжды вясновым.
Прызба. Доўгія размовы.
Казка матчына:
«Жыў-быў каваль бядовы...»
Бацькаў успамін —
балючы і суровы...
Мова! Мова!
Памяці, і вернасці,
і сутнасці аснова.

# ПАЎЛЮК БАГРЫМ

1

Жыла і ў ім вясёласць юнака,
чужая для салдатчыны, няволі,
і прагнула вясноватага радка,
падслуханага ў жаўруковым полі.

А вылілася ў горкі, сумны верш,
праклёнам абярнулася, нязгодай...
Так стаў юнак Паэтам і найперш
стаў праўдай
занядбанага народа.

2

«Зайграй, зайграй...» Дыханне заняло
ад песні. Як шкада нам, што — адзінай!
А болей мо ў душы і не ўзышло
пасля слязы, што ацвярдзела льдзінкай?

Няхай адна! У ёй — ягоны свет,
такі як ёсць — пакутлівы, балючы...
Хіба не марыць кожны раз паэт
аб гэтакай — адной
і неўміручай?

# БЕЛАРУСКІЯ ГУСАРЫ

У маі 1803 года у Кацярынаславе адбылося асвячэнне сцяга Беларускага гусарскага палка, аснову якога склалі перасяленцы з Магілёўскай губерні. Пазней полк праславіўся ў многіх баявых паходах рускай арміі.

Звоніць меддзю і булатам
гулкі Кацярынаслаў.
Пляц. Сабор. Тут сёння свята:
горад новы полк сабраў.

І стаяць шарэнгі роўна
гожых русых дзецюкоў
з прыдняпроўскага Дуброўна
пад палотнамі сцягоў.

Што наперадзе? Паходы.
Што ў былым? Свой кут. Рака...
Не забыць, скуль самі родам
і скуль назва іх палка.

Поплеч з іншымі палкамі
панясуць нягодаў крыж
вольнай хваляй — на Балканы,
гнеўнай хваляй — у Парыж.

Годнасць імені не згубяць
і без пыхі прымуць дар —
з срэбра вылітыя трубы,
срэбрам вышыты штандар.

Ды з французскай, ці турэцкай,
ці яшчэ якой вайны
дацячэ іх кроў па рэчках
аж да роднай стараны.

А ўтаймуюцца пажары —
тут, дзе прашчуры ляжаць,
славы іхняе штандары
добрым ветрам прашумяць.

# З ЖЫЦЦЯ АДНАВЯСКОЎЦА

Пачуў — і паверыў:
там булкі — што сонцы,
ад соснаў вышэйшыя травы,
а вуллі — як хаты,
і зоркі злятаюць на стрэхі...
Наважыў — паехаў.
І боханы рот апякалі,
ад мёду зліпаліся вусны,
у травах блукаў і губляўся,
і зоркі зрываліся ў скрусе...
Адгораў — вярнуўся.
Аблога сагрэла зярняты,
касы дачакалася некаш,
запахлі радзімаю соты
пад зоркай — адной, ды гарачай...
Згасаў — але ўбачыў!

# ЗА АНКЕТНЫМІ РАДКАМІ

1

Вымаўляю проста: беларус.
Так прашуміць на дрэве ліст,
так аб човен вытнецца вада.

Ні зайздрасці, ні пахвальбы —
тут, дзе чорныя ралля і хлеб,
тут, дзе горда курганы маўчаць.

2

Столькі зведаў ён нягод,
мой народ,
навекі вольны!
Хто яшчэ так шчыра здольны
іншы паважаць народ?

З гэткім лёсам — не збяднець:
час глыбокі,
колас повен,—
і валошкай яго мове
ў разнатраўі моў квітнець!

# ПОСТАЦЬ

За ўласным ценем мне не бегаць...
У. Хадыка

Пакуль схавае хмара промні
яго апошняе зары,
не памяццю —
душой запомніць
час
да лістка ў календары.

І кожным днём ён сцвердзіць лучнасць
з народам суджаным сваім:
як ёсць на свеце
неўміручасць —
дык гэта ў ім, адзіна ў ім.

На вобраз чысты і суровы
не кіне ані ценю крыўд,
яго пачуцці, думкі, словы
не ўмесцяцца
ў мяшчанскі быт.

І ляжа лёс яго на вагі,
і сцежка пойдзе пад гару,
ды не паменее адвагі:
«Я да канца дагавару...»

Не дагаворыць. Веснавы дзень
захмарыцца...
Але тады
ўжо да яго народ сам прыйдзе,
пазнаўшы постаць праз гады.

# КУТ ПРОДКАЎ

У прагалак варотаў
зарулю самаход.
За паваленым плотам
не ўгадаецца год.

Дзве жардзінкі ад брамкі,
след двайны ад вазоў.
Быццам простыя рамкі
ад старых абразоў.

Скрозь —
нябёсы пустыя,
ды і што ўжо таіць?..
Пазнікалі святыя —
вобраз хаты стаіць.

Розна ў хаце жылося...
Не ідуць адчыняць
Ганны, Хведары, Зосі:
па-за вёскаю спяць.

Мне іх не дагукацца,
мяне ім не пачуць.
Натаміліся працай,
за вякі адпачнуць.

У маўчанні зацятым
ледзь улоўны дакор.
Паўзабытая святасць —
вобраз хаты і двор.

І наросхрыст — вароты,
дзе блакіт і прасцяг...
Род. Крынічка народа.
Ручаінка жыцця.

* * *

Няхай сыду;
хай горкім тленам-дымам
імя
і нават цень
гады разветрацъ,
а ці жыве
і як жыве
Радзіма,
хачу й на тым,
на чорным, свеце
ведаць.

# ЧУДЗІН

Ці не ад «цуду» — назва тваёй вёскі?..
Прыватнае пытанне

Калі не цуд, што мой выток, мой Чудзін —
палескіх казак даўні чарадзей,
што першы зруб, прагнаўшы ўсіх чарцей,
паставіў ён на непадступным грудзе;

калі не цуд, што ў самы горкі будзень
не адымаў ён зброі ад грудзей —
да хат і ніў, да мацярок, дзяцей
шлях заказаў не аднаму прыблудзе;

калі не цуд — наўкол абсяг зямлі,
дзе ў рост мой жыта, травы параслі,
дзе лес і рэчка шчодрыя надзіва;

калі не цуд уся яго Радзіма,
чыёю мовай даражыць дзівоснай,—
тады мой Чудзін — проста нават вёска.

# БАГДАНОВІЧУ

1

Пайшоў назусім
ты з далёкім паходам...
На Белай Русі
стаіць непагода.
На цёплы прамень,
на светлую просінь
шле хмары штодзень
абложная восень.
Як вокам ні кінь —
сабранае жыта,
адны васількі
на полі забыты.
Мне бачны ў імжы
грывастыя коні:
скубуць на мяжы,
прысталі ў пагоні...

2

Кніжны храм.
Тут зорнай чарадой
вабяць нас паэтавы імёны.
Ты між імі —
самай незамглёнай,

самай блізкай
зоркай нада мной.
Сціплым,
чыстым словам узляцеў:
«Я хацеў бы
спаткацца з Вамі...»
Хораша і светла
ў родным храме,
і любоў да спадчыны
расце.
Не прарочу долі:
выспеў час
не гадаць — здзяйсняцца
колькі змогі...
Тым шчаслівы,
што свае дарогі
я магу
па зорцы вызначаць.

## РОДНАСЦЬ

Спасцігаю сэнс і шлях
тых залётных аблачынак,
што плывуць па-над вачыма,
ружавеюць на вятрах.

Іх выток і вырай тут...
Над засмужаным абшарам
ім рабіцца шчодрай хмарай,
у адзін збірацца гурт.

І пральюцца кроплі іх
на бязмежнасць траў і лёну,
на мой позірк, на далоні,
што вітаюць гэты міг.

Толькі міг —
                    і ўжо няма
ані воблачка ў нябёсах,
ды паўсюль успыхнуць росы,
заблакітнее туман.

І аднойчы ў дымцы той
вы заўважыце, як ценем
зноўку постаць узляцела
па-над роднаю зямлёй.

У сусвет не адплыве,
воблачкам кружыцца стане —
і паверыць у вяртанне
той, у кім любоў жыве.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

Вы смехам віталі вяртанне,
калі жартаваў я, вайсковец:
— Здравствуйте, односельчане!
— Дзень добры, аднавясковец!

Цяпер я ўстрывожаны, хлопцы,
мне сніцца такое начамі:
— Дзень добры, аднавяскоўцы!
— Здравствуй, односельчанин!

# ЛЕГЕНДА ПРА ТАРПАНАЎ

— Скуль вугальна-шэрыя спіны
і попельнасць?..
— Вер ці не вер,
не зроду ў іх колер мышыны,
не зроду — пушчанскі вальер.

Ім вольна, як птушкам, жылося,
ляцелі — нічым не стрымаць.
Над росным люстэркавым плёсам
квітнела агністая масць.

І полымем грывы шугалі,
і пырскала звонка раса...
Няведама, як ашукалі
іх стайня і водар аўса.

Мо проста таму, што арканы
і стрэлы
наводзілі жах?
І трацілі волю тарпаны
ў бяскрайніх дрымучых лясах.

Хваліліся людзі: пароды
спрадвеку такой не было...
Тарпаны не выдалі згоды
на пугу, аброць і сядло.

Адчулі мяцежныя коні,
палоннікі хцівай маны,
што зыркі не выстыне колер,
што ў стойлах — нядоўга яны.

І тая часіна настала —
паўнеба пажар ахапіў:
усцыхнула душная стайня
ад вогненных целаў і грыў...

І менела іх з той часіны,
ды кажуць, я чуў і цяпер:
не вечны ў іх колер мышыны,
не вечны — пушчанскі вальер.

# ПАЯЗДЖАНКА

Яна расказвала пра востраў Ява.
Гадоў за трыццаць...
Клава...
Педагог...
Муж — капітан.
Якраз туды ён плаваў,
але, шкада, узяць яе не мог.
Што? Не, ні слова —
на тубыльскай мове,
ды вывучыла б меней чым за год.
Арабскую засвоіла — гатова
не сёння-заўтра сплаваць
на Усход.
Яшчэ прызналася:
хоць і няблізка —
а хоча ў Афрыцы пабыць
яна.
Дарма, што не валодае
англійскай,
ды ведае французскую спаўна.
Яна спяшалася цяпер у Гродна —
матуля там і меншая сястра.
Спытаў:
— Вы размаўляеце на... роднай?
Яна ўсхапілася:
— Уж мне пора!..

## 1862 ГОД.
## СЛОВА КАЛІНОЎСКАГА

Ты, народ мой,— не слабы.
Дзецюкі!
Слязу сатрыце,
для вялікае касьбы
свае косы навастрыце.

Біце ў звон ва ўсе канцы
ў непахіснасці і веры.
Сёння вы яшчэ касцы,
заўтра вы — касіянеры.

Заўтра — з крыўдай змагары,
ганьбаю, жыццём ярмовым
і, бог дасць, гаспадары
і зямлі сваёй, і мовы.

А не дасць... Не знікне след.
Жыць надзея застанецца,
гулкім рэхам пойдзе ў свет,
з хаты ў хату, з сэрца ў сэрца.

Адгукнецца не адзін
ваш і сын і ўнук;
над краем

нават серпік-маладзік
пра касу ім нагадае...

Яны скажуць, дзецюкі,
імем новых пакаленняў:
«Таго роду мы, які
назаўсёды ўстаў з каленяў!»

## СОН ПРА 2085 ГОД

Стаяў на рагу вуліцы Рагнеды,
блізка ад помніка сённяшняму пачаткоўцу,
якога яшчэ не друкуюць «раёнкі»,
і слухаў, як з расхрыстанага акна
гучала матчына калыханка.
Я так захапіўся, што не заўважыў,
як аб мае этнаграфічныя чаравікі
зачапіліся двое першакласнікаў.
«Даруйце,— сказаў мне адзін,— калі ласка!»
Другой, а гэта была дзяўчынка,
я дапамог падняць новую кніжку
з залацістымі літарамі «Роднае слова».
Зрэшты, нічому я тут не здзівіўся,
бо і ў 1985-м
не верыў, што ўсё можа быць інакш.

# ВАНДРОЎНІКІ

Тамбур — табар, і базар,
і вясёлая харчэўня.
Твараў жар. Кашуляў жар.
І пажар
спадніц качэўных.
Смех клубіцца, быццам дым,
праз расхрыстаныя дзверы:
— Г-эх, цыганкам маладым
я не дам ніколі веры!..
Не ўтаймуецца агонь,
не сунімецца стыхія.
І хістаецца вагон,
як фургон
у дні былыя.
На асеннім скразняку
кучаравінкі іскрацца.
— Скуль? Куды вы?
— Ат, ні скуль,
адно ёсць куды падацца.
Скрынкі, клункі і кулі
атабараны пад столлю.
— Карты? Карты не рублі,
у цыганак хлеб
бяссольны...
— Дык зайграйце, цыганы,
пра вачэй смалістых чары.

Ці й гітары
                без цаны?
Хто ж тады вы — без гітары?
— Ёсць «Рамэн»...
— Дык жа адзін,
а вы трантаў наскуплялі!..
— Вось гітара, паглядзі,
ну, брат, зараз пагуляем!
...Праваднік ідзе ў натоўп,
дапяклі, дык здатны ўджаліць:
— То ўжо годзе, мабыць, стоп,
дый, здаецца, пад'язджаем.
І гітара зноў — у куль
з ціхім шоргатам і дзынкам.
Усміхаюцца: пакуль!..
Пальцы гнуткія ў музыкаў.
«Табар» сцішыўся. Аціх.
Развіталіся аберуч.
І нанова веру ў іх,
бы ў народ уласны веру.



Позні вечар пазапальваў вокны,
гэта мы сышліся да жытла.
І цяпер настрой наш відавочны
ў скрыжаваннях добрага святла.

Што перабалела — не ўзгадаем,
з набалелым — пачакаем дня.
Заўтра зноў закружыць, загайдае
вартая — а ўсё-ткі мітусня.

Хоць яна — не самае благое,
але ўсё наровіць раз'яднаць...
І гаворым вокнамі пра тое,
што вачыма не змаглі сказаць.



О, як жа трывала ты мукі свае
і як твае рукі цягнуліся ў неба!
Мо гэтак па кроплі сябе аддае
змялелая рэчка засушанай глебе.

Мо яблыня гэтак ламае галлё
ў апошняй надзеі, што ўсё ж абароніць
танюсенькі пасынак і вараннё
яго недзе ў полі пустым не аброніць.

Малы камячок — ад карэнняў тваіх,
галінка зялёная — жылка на пульсе.
Маліла жывых і памерлых — усіх:
яны дапамогуць, яны не дапусцяць.

І горка памерлым было і жывым,
а ты паміж імі ў знямеценні і болю
казала вачыма, кіўком галавы:
ты ведаеш выйсце, яно за табою...

І рунь па-над рэчкаю бралася ў рост,
і пасынак яблынькай новай усходзіў,
і крыкам дзіця абвяшчала, што ёсць
адзіная воля ў любві і ў прыродзе!

# ЭЛЕГІЯ

Аблашчаць дыханем,
нацягнуць уборы,
пакажуць святліцы ў вянках —
і свечку запаляць,
і ў дзіўнай пакоры
самкнецца з рукою рука.

І зойдзецца вецер глухім галашэннем,
і нехта нябачны ўначы
запыніць гадзіннік з зязюлькаю шэрай,
што дні знемаглася лічыць.

Як месяц у сцішаных косах аеру,
твой твар адгарыць між людзьмі,
а раніцай насцеж расчыняцца дзверы —
і свечка
зальецца слязьмі.

Намітка туману жывою душою
растане ў блакітных палях...
Скупым разуменнем сябе супакою,
што ўсё гэта будзе пасля.

А сёння так хораша кропелькі свечак
на лапках яловых зіхцяць,

«зязюля» кувае,
і доўжыцца вечар:
у хвілі — бясконцы працяг.

І поўніцца сэрца адною табою,
і любіць яно спакваля
за тое, што ёсць, што жывеш, і за тое,
што будзе з табою пасля...



Зноў адзін, як дрэва ў полі,
забаўкай для ўсіх вятроў.
Што за радасць з гэткай волі —
без каханай
і сяброў?
Не кранае пантаміма
губ чужых
і рук чужых,
а дарогі — міма, міма
без адзнакаў верставых.
Чырванеюць далягляды
смуткам восеньскіх калін
там, дзе мрояцца пагляды,
што ад скрухі б
адвялі
ці дакорам укалолі,
пранізалі б да касці...
Мне без іх —
як дрэву ў полі:
вольны — а куды ж ісці?..

## БРАТУ

Яшчэ толькі жнівень — а ўжо халады.
Цямнее блакіт у люстэрку вады,
і з поўначы, захаду цягне цыклон.
Срабрынка-расінка астуджвае скронь.
Яна не растане, яна не ўпадзе.
Дарог усё болей. І меней надзей.
З усіх застанецца надзея адна:
жыццёвая чаша дап'ецца да дна.
Жыццёвую чашу няўтольна дап'еш,
на сынава шчасце яе разаб'еш:
няхай жа ён будзе даўжэй малады!..
Яшчэ толькі жнівень — а ўжо халады.



Быў безуважны да сяброў —
шукаў усё жыццё кахання.
Знаходзіў, страчваў — і дазвання
быў безуважны да сяброў.
Няма яму выратавання:
зусім адзін, а час — сышоў...
Быў безуважны да сяброў —
шукаў усё жыццё кахання.



Што ж, гэта асенняе, мусіць:
не папускацца зіме,
за дрэўца чапляцца, за кусцік
на самым пярэдадні змен;
трымацца апошняй лістотай,
блукаць ад двара да двара,—
то ветрам вільготным, то слотай
сняжок, нібы крэйду, сціраць.
І ведаць, і не пагаджацца,
што следам часіна ідзе
з марозным узорыстым глянцам —
яна не саступіць нідзе;
што плакаць, злаваць і пракудзіць
нягожа; што гэта сама
зіма колькі можа марудзіць —
табе спачувае зіма.



Так чакана!..
Так няпрошана —
быццам вецер у акно!
Не пястушка на гарошыне,
усё ведала даўно;
смак рабіны
і смак яблыка
адгарчылі на губах,
а далонь яе прывабліва
разнатраўя несла пах.
Трэба ж
травам хмельным вырасці
на прамежкавай вярсце!
Трэба ж —
лёгка шляху выракся,
сталай радасці схацеў!
Кім
была мне дараваная,
чым —
заслужаная мной?..
Мусіць,
рана прагнуў,
рана я
доляй вызнацца чужой.
А надзеяй жа мне веяла
ад сустрэтага жытла,

і душою ўсёю верыў я
ў непрыкаянасць
святла;
трапяткое, непрычыннае —
а высвечвала да дна!..
Бачыў я: акно расчынена.
Ды няма таго акна.

# БЕРАГ

> **Лятучы Галандзец, капітан, асуджаны на вечнае бадзянне і разбой у акіянскіх прасторах, будзе выратаваны жанчынай, што назаўжды пакахае яго...**
>
> З легенды

Сядзеў ён з боку ад суседзяў шумных,
п'янеючы ад тлуму кабарэ.
Як быццам ветразь яго лёгкай шхуны,
трымцела парусіна ля дзвярэй.

Куды нарэшце выкінулі хвалі
за доўгія
і жорсткія вякі?..
На беразе
яго не пазнавалі:
гулялі непрытомна рыбакі.

Спявачка заклінала аб сустрэчы
матроса
з акіянскай нематы.
Яе абпаленыя сонцам плечы
адсвечваліся ў піве залатым.

Яе рука прывабліва ўладна
плыла паміж узбуджаных гасцей.

І прагнуў ён
звычайным быць
галандцам,
ён болей быць Лятучым не хацеў.

Як ён жадаў
вярнуць яе матроса,
бязлітасна загубленага ім!..
Мінала ноч,
і, падуладны лёсу,
ён роспач і тугу сваю таіў.

Калі ж прачнуўся гарадок партовы,
на палубе,
прыставіўшы далонь,
зноў пазіраў у сінія прасторы —
і ў позірку спагады не было!

## НАКЦЮРН

Поўня — блішчыць ліхтарык,
узяўся такі туман.
Хто і каго шукае?
Многім у парку волка.
Згадваецца дзень пражыты:
нешта згубілі там...
Можа — сустрэчу з другам?
Можа — тугу аб доме?
Можа — праўдзівасць слоў?
Вось і здаецца: сумленне
ноччу ўзяло ліхтарык
і ўпарта шукае,
шукае, пазбыўшыся сну...



З поўнаю жменяй золата
звонкіх сухіх лісткоў:
«Панечка, вам не холадна
ў лётцы без пояскоў?..»

Ды кругавою сцежкаю
збегла па горцы ўніз,
кінуўшы мне з насмешкаю
самы чырвоны ліст.

Сцежка вярнула сёлета...
Што ж ты дрыжыш, рука,
з тым жа вясёлым золатам,
прагна, бы ў жабрака?

## ВАЎЧАНЯ

Сярод дзетдомаўцаў — адзін ён
з такой маркотай і тугой,
такі зацяты, нелюдзімы,
што ўсе баяцца за яго.

Змарнеў — а толькі моцны ў веры,
што прыйдзе па яго радня,
і ўночы грукаецца ў дзверы
і плача-вые. Ваўчаня.

Яго так і завуць, упарта
стараючыся прыручыць.
І кажа Стах, начная варта,
што чуў ён водгалас ваўчыц.

Скуль і з чаго — у век нявоўчы
ды ў асяродку гарадка?
Былы вясковец, быў ён лоўчым
пры Польшчы ў нейкага панка.

Не ўспомніць, у каторым леце,
але было: на сходзе дня
Стах на забаву панскім дзецям
прынёс жывое ваўчаня.

А потым быў і сам не рады:
з таго ляснога шчанюка,

як з паляўнічае прынады,
цвяліўся пан. Хітрыў. Чакаў.

І прычакаў. Па ім і выйшла.
Зрабіўшы не адзін мо круг,
ваўчыца падманула выжлаў,
перацяла да дня ланцуг.

Сама ж не ўберaглася. Гонам
знялі яе на спуску ў лог.
— Што з ваўчанём? Я і сягоння
даўмецца не магу, дальбог...

І Стах, згадаўшы тое лета,
сурова думае-маўчыць.
Ці не пра гэтых... з «інтэлектам»,
двухногіх маладых ваўчыц?

Пра іх, пра ваўкалакаў-маці —
за сотні вёрст ад гарадка...
...Дзетдом спрабуе ў «ваўчаняці»
збудзіць пяшчотай хлапчука.

## БЕЛАЯ ПАЛАТА

— Ты як тут? Што, рэжым?
А мы крыху сабралі
з калегамі, сябрамі...
Так прафсаюз рашыў.
На вуліцы ўжо май,
пуцёўка ёсць на ўзмор'е.
Надвор'е? Дрэнь надвор'е.
Дык вось, бяры. Трымай!..
...Ах, колькі дактароў!
Ды, выбачайце, маскі
здыміце.
                Што мой насмарк!
Хварэю на сяброў.
Сядайце дзе хто ёсць —
прыстойна і на ложак.
Я ў медсястры заложнік,
даруе: маладосць.
Давай без выкрунтас,
раўня ты ці начальнік,
давайце як за чаем
пабудзем хоць бы раз.
Каб гутарка цякла
без тлуму і прынукі,
падайце
                вашы рукі,
як сподачкі цяпла.



*Міколу Пракаповічу*

Зямля — з-пад ног,
і рухне бераг
на глыбы пеністай вады...
Але ніколі не паверу
ў непрадухіленасць бяды.

Свой шанц
я не аддам без бою,
як чараціначку нажу,
і стану даражыць сабою
для тых, кім болей даражу.

У міг адчаю развітальны,
калі ратунку не знайду,
ці друг, ці сын
выратавальны
круг сонца кінуць на ваду.



Быў ад роду нямы.
Ці, казалі, з парогу
на парозе жыцця
ён зваліўся і змоўк.
Запыталіся коннікі раз пра дарогу —
расказаць, растлумачыць дарогу не змог.

Завірыла, усхліпнула золь завірухі,
верставыя слупы зніклі ў шумнай начы...
Больш, чым вочы глыбокія, рукі і рухі,—
тайны голас яго
ім хацеў памагчы.

Ні раней, ні тады, калі снег быў у пояс,
не наважыў ніхто
ўзяць з сабою ў сядло.
Ды пачулі, як нема прарэзаўся голас,
калі свет засланіла завеі святло.



Матуля! Холад на душы.
Не ноч за вокнамі, а пустка.
Ты зорных крошак пакрышы
ў густую цемру белым птушкам.

Матуля, холадна мне спаць.
Асеннія прыезд і водпуск
я зноўку змушаны аддаць
тузе і роздуму на водкуп.

Матуля! Холадна жыву,
хоць вершы — пра цяпло складаю.
Ці шмат шчаслівых мною?.. Вунь
табе пісаць нат забываю.

Матуля, золак настае,
а немачы ніяк не здужаць.
Не птушкі белыя мае —
халодны пух над хатай кружыць.

Матуля, чым і як, скажы,
мне птушак адкупіць у неба?
Ты ж ведаеш, як трэба жыць,
а я ўсяго — як жыць не трэба.

# ЦЯПЕР

Бязмежныя ў юнацтве далі
мяжу акрэслілі цяпер,
дык час усё, што не сказалі,
казаць з даверам за давер.

Цяпер у нас трывог найболей,
найменей — бесклапотных свят,
і страта адчування болю
была б найгоршай з іншых страт.



Снег — і дзіўнае расстанне:
дзе стаяла ты — няўлоўна
на ад'езд крыўляюць танец
трапяткія здані клоўнаў.

Іх бялюткія абрысы
размываюцца, знікаюць,
ні адной знаёмай рысы
за акном не нагадаюць.

Мне б —
не зданяў гэтых рухі,
скрыжаваных у палёце,
адчуваць бы твае рукі
у пяшчоце-адзіноце.

Быў бы і маўчанню рады,
зразумеў бы ўсё
і з'ехаў,
ды — ні кропелькі спагады
за крыўляннем і пацехай.

Я схаваў бы крыўду ў тайне —
знішчыў у грымоце колаў,
каб не гэты скрушны танец
прывідных завейных клоўнаў.

## НЕЗНАЁМЫ

Скалане: падабенства Іуды.
Цёмны позірк.
А як разгадаць —
мо ад цяжкай віны і пакуты?..
І няма каму
паспагадаць.
Мне працягне скупыя далоні.
Што ў іх — зман
або дружбы зачын?
У вачах, за халоднай заслонай —
ні сяброў,
ні найлепшай з жанчын.
Не спытаю, якія намеры,
не заўважу прытоены нож.
Небяспечнае
хочацца веры?
І з сябе пасміхнуся: ну, што ж...
Раптам возьме ды стане
харошы,
засумуе са мной па красе.
А прадасць — дык за гэтыя грошы
ладны крыж і цвікоў прынясе.

# МІНСКІМ СЯБРАМ

Весялей вам жывецца на свеце:
і сябры ёсць, і кніжак стае.
Я ж — працую ў раённай газеце,
і пішу, і чытаю яе.

Хто як ходзіць, пішу, у пракосе,
хто як жне, хто як возіць харчы,—
ды не ў вершах, і нават не ў прозе,
а ў карысным раёну «ключы».

Зачаплюся за рыфму часамі —
паніжаюцца словы ў цане.
Мой рэдактар — і сам ён з вусамі —
не заўжды паважае мяне.

Завітаць загадае-папросіць
і крытычна гаворку вядзе:
ты, маўляў, хай у рыфму, ды — проста,
хоць бы гэтак, як Віктар Гардзей.

Для яго ўсё яшчэ таямніца,
ён не чуў яшчэ весткі тае,
што і Віктар цяпер у сталіцы,
дзе ёсць вы і дзе кніжак стае.



Рукі ўскінуць, засмяяцца,
каб ад сэрца адлягло,
каб на выцягнутых пальцах
заіскрылася святло.
І адчуць
не прыналежнасць,
а залежнасць долі ўсёй
ад прастораў гэтых снежных
з прыдарожнай паласой;
і ад ветру,
і ад вежаў
строгай велічы лясной,
і ад ранкаў гэтых свежых,
запарушаных слязой.
І настроем пераліцца
ў звонкасць заінелых хат,
цеплыні
ўзяць у крыніцы
і цярплівасці
ў зярнят.
Прысягнуць жыццю на вернасць,
краю песень і сяброў
і... забыцца на мізэрнасць
зневажальных тваіх слоў.

# БАБУЛЕЧКА

Пакуль атопкі топкаюць,
ідзе яна.
Ідзе
гародчыкам,
картоплямі,
нястомная ў хадзе.
То ў хаце. А то ў хлеўчыку.
Пазвоньвае вядром.
Мяце.
На ўзмежку ўкленчыла
з няступленым сярпом.
Схадзіла верасовыя
лясы,
раллю, траву...
Зямная філасофія:
пакуль іду — жыву!
І радасць не растрачана.
(Сляза не ў навіну.)
Наіўнасцю дзіцячаю
пацешыць зноўку
ўнук.
Ён прыйдзе позна з вулачкі
і,
перш чым спаць ісці,
прылашчыцца:
«Бабулечка,
вялі-і-кая расці!»

## ВЯРТАНЕЦ

З вагона выйшаў — і бягом,
снуе па стомленым вакзале
з нямым пытаннем: ці пазналі,
не перастаў быць земляком?

Глядзіць касірка сном касым,
сяброўка школьная мінула,
і ў горле — даўкі жарт: матуля,
давай знаёміцца — твой сын.

7 Зак. 1530



Не адыму ад сэрца, не адпрэчу
і не забуду (хоць, напэўна б, змог)
аблічча ў смутку,
                                        познюю сустрэчу
сярод маіх заблытаных дарог.

І так я шмат адняў, пусціў па свеце
пачуццяў, згадак...
                                        Страшна мне ўявіць,
што анямее, апусцее сэрца.
Не, хай шчыміць яно! Няхай баліць!

# ЕДНАСЦЬ

Я часцінка зямлі,
і таму мне балюча,
калі нішчацца дрэвы,
высыхаюць крыніцы.

Гэта мой
 востры боль
крыкам жаласным ка́ні
прылятае так часта
да сяліб
 з сенажацей.

Мой дакорлівы позірк
вы сустрэнеце ў лесе
ў «вочках» белай бярозы:
апусціце
 сякеру!..

Асцярожна трымае
на далонях дзяўчынка,
як маленькае сонца,—
спелы яблык чырвоны.

# ЧАКАННЕ

Пружаншчына, Вялікае Сяло.
Маленькі дзед
паклаў на коссе рукі:
«Даў бог, павырасталі мае ўнукі,
ды ў горад іх нячысцік павалок».

Паказвае вачыма дзед на хлеў —
такі ж худы, у самы час на дровы.
«Ты думаеш, карысць мне з той каровы?
Я пераб'юся з квасу ды на хлеб».

І ў веснічкі пацёртыя вядзе,
за імі — сад, аблога не скупая:
буяе крапіва, аж ускіпае...
Адно рукой махнуў сярдзіта дзед.

«Прасіў напіцца? Зараз прынясу.
Не будзеш сыты босаю вадою».
І наталяю смагу сырадоем,
і выціраю белую расу.

Ачуньвае і двор ад духаты.
Грымяць
дзвярмі і вёдрамі суседзі.
«А раптам нехта возьме ды прыедзе,
старэйшы — той з блакноцікам, як ты!»

Бурчыць, а запрашае начаваць:
«У пуні чыста, сена варушылі...
У нас усе балоты асушылі —
не прывучылі ўнукаў працаваць».

Збярогшы хісткасць і дурман стагоў,
паволі вышкі дзедавы калышуць,
і месяц, быццам з малаком гладышык,
сумуе:
        частаваць няма каго.

# ПТУШЫНАЯ МІГРАЦЫЯ

Не манаршыць болей голуб
у кварталах камяніц —
сёння вотчынны свой горад
шмат з кім змушаны дзяліць.

Вунь крыкунка-папрашайка
села спрытна на карніз:
не рачной — ручною
                    чайка
пазірае зверху ўніз.

Шпак не ў вёсцы, грак не ў полі...
Зранку і на сходзе дня
аж хістаюцца таполі:
столькі стала варання.

Цягне птахаў да культуры,
і ці здзівімся пасля,
калі ў парку, ля скульптуры,
згледзім роднага бусла.

Прыжывецца тут, няйначай,—
будзе зрэдку адлятаць,
каб гняздо бацькоў
                    на дачу
ў вёсцы пераштукаваць...

А ў птушыных пераборах
пазнаем сябе саміх:
пералётнымі —
                              у горад —
сталі мы раней за іх.



Я прытуліўся да сасны,
і ўчынак быў такі не новы,
што я не вымавіў ні слова,
а водар удыхаў сасновы,
як нейкі цар ці дух лясны.

Галіны пульхныя плылі,
нібы зялёныя аблокі,
і быў такі я адзінокі,
што не адчуў, калі няўрокам
да дрэва пальцы прырасли.

# СПАЛОХ

## 1

Цераз сад, цераз поле — лес.
Увайшоў — у кажух улез.
Толькі сёння не грэе ён,
як і бацькава світка — лён.
Мерзлы дол, мерзлы позні ліст.
Між галін — дзікі ветру свіст.
Ціснуць лютыя халады
адчуваннем сляпой бяды.

## 2

Адчуваннем сляпой бяды —
утаптаныя ў мох сляды.
Не сыпнуў ні крупінкі снег
на апошні звярыны бег.
На кары ледзь запёкся струп.
Пад асінай — ласіны труп.
Галавою — яшчэ жывой! —
сонца коціцца над травой.

# СТАРЫ САБАКА

Адстаў ён і адчуў: збылося.
Марозны захад дагараў...
Падвыпіў гаспадар і злосна
гукнуў:
— Ату яго з двара!

Адтуль, дзе музыка іграла,
дзе запівалі ўдалы гон,
бязладным брэхам
выжлаў зграя
за вёску вывела яго.

Блішчала над снягамі поўня,
чарнелі зданямі хлявы.
Сядзеў сабака ў чыстым полі
і голасна,
працягла выў.

У роспачным выцці ягоным
начны заснежаны абшар
чуў
водгук яраснай пагоні,
смяротнай бойкі дзікі шал.

Калісьці вепра падымаў ён,
казуля й тая не ўцякла...

Цяпер хацелася так мала:
скарынкі хлеба
і цяпла.

Ды хоць было нясцерпна горка,
калючы холад прабіраў —
не дазваляла яму
гордасць
вярнуцца ў двор гаспадара.



Як соладка тануць у свежым сене,
мякчэйшым ад аблокаў і вады,
калі знікае месяц малады,
а сонца ў вочы залацінкі сее.

Калі падзенне ў сон — як узнясенне;
чапляецца на вейкі родны дым,
і кружыць голаў думка аб адным:
як соладка тануць у свежым сене...



Мала спалі — шчыравалі.
Быццам золата шукалі.
Пашыралі. Паглыблялі.
Зіхатлівы жвір кідалі.
Мылі рэчку, размывалі.
Вось размылі. Падлічылі.
Замачылі. Задымілі.
Задыміўшы, замаўчалі!
Столькі срэбра затапталі —
срэбра плоткі, срэбра хвалі!..

# ЗІМОВЫЯ АКВАРЭЛІ

1

На вуліцы прыцемак сіні.
Бліскучы на лужынах лёд.
На пальчыкі стаўшы,
рабіны
глядзяцца ў яго цераз плот.

Ім трошачкі сумна
і дзіўна:
патухлі на гронках агні...
А шэрань — з драбнюткіх ільдзінак,
рассыплецца, ледзьве крані.

Ступі — і з настуджаных высяў
дрыготкія зоркі ўпадуць,
і ўсе, хто на вуліцу выйшаў,
ля весніц стаяць,
не ідуць...

2

Бы з нядаўняга прывозу
ў магазін — ёсць што купляць,
увабраліся бярозы
ў саржу, лён і шоўк з марозу,
цеснай купкаю стаяць.

Мо таму,
што дзень кароткі,
ім і ранак для пацех:
сыпанулі з ветрам лёткім
вераб'іныя чародкі,
быццам семачкі, на снег.

Сонца яркую палоску
выглядаюць: шлейф які!..
І плывуць дымы над вёскай,
і пароўну ўсім бярозкам
дастаюцца каснікі.

Больш на вуліцы нікога.
І паляпаў па плячы
дзед унука:
«Спіш, нябога,
а нявесты — ля парога,
што ты выснііў уначы!»

3

Ранак ясны і марозны
нагадаў уміг:
заблудзіўся ў дзвюх бярозках
белых рук тваіх...

8 Зак. 1530

4

Ці то з боязі, ці з адчаю
наракаем: няўмольны бег!
Не спыняйцеся: столькі ўцех!..
...Зноў узрушаны незвычайна:
выпаў першы — звычайны — снег.



Падрэзвае галінкі горад строгі,
а ўсмешніца-вясна вядзе туды,
дзе вуліцы ўплятаюцца ў дарогі
з бліскучымі азёрцамі вады.
Паўсюль ад мяккіх подыхаў чароўных
знікае снег — дашчэнту растае.
Зямля прачнулася: гракоў чароды
не адлучыць ад — чорнае — яе.
Шарэе ўзлессе ў маладым тумане —
пара для яркіх фарбаў не прыйшла.
Але заручышся: цяпер адтане
і нечая халодная душа.
Цяпер ва ўсім адчуеш пацяпленне;
зірнеш на горад — вуліц не пазнаць:
прыйшлі з лясоў высокія алені
і ля дамоў даверліва стаяць.

## АТОЖЫЛКІ

### 1

У краі сваім згубіцца,
відушчым і чуйным стаць!
Палессе.
Сцяжыны — быццам
атожылкі, след ліста.

З якога апаў ён дрэва,
той ліст,
на маю зямлю?
Палессе,
не знаю пэўна.
Ёсць пэўнасць адна: люблю.

Люблю. І не дам я веры,
што лёгка
палешуку
спілоўваць сівыя вербы,
выпростваць глыбінь-раку.

Ён чэрпаў адгэтуль дужасць,
ён марыў тут дзень пры дні.
Ці ж лёгка —
узяць і зрушыць
спрадвечныя карані?

2

Святлом залацістым — сосны,
зубровіца — ля брыва,
ад водару
і ад сонца
аж кружыцца галава.

Прыслухайся — уздыхае
паблізу густы імшар...
Ні добрая, ні благая —
жывая ва ўсім душа!

3

Ідыліі, скажуць, мала
ў карчэўных глухіх лясах,
бяскормных сухіх прагалах;
у жыта — свая краса.

І цешыцца наша вока:
сярбрыстыя ад расы,
налітыя шчодрым сокам
ківаюцца каласы...

Не будзе ніколі межаў
у хлеба.
Ды я аб тым,
што хлеб і краса залежаць
ад нашае дабраты.

Ну што ж, хай працэс няўхільны.
(Тут лішні папераў стос.)
Прагрэс — жарабок стожыльны —
скране які хочаш воз.

Не гнаць бы адно; век сошкі,
сявенькі
даўно мінуў,
а тыя ж усё валошкі
ўплятаюцца ў збажыну.

Ім, пэўна, засведчыць трэба
блакітным сваім святлом:
і сёння
не толькі хлебам
на дзіўнай зямлі жывём.

4

Калі цэлы край змяняеш,
нячаста бажыся ў тым,
што ані ў чым не збядняеш
набытага ім самім.

Зямля яго
не скупая —
не ў лёдзе або пясках.
Ці не таму і капаем,
што ў ёй — найдаражшы скарб?

Хай крыва хто-небудзь гляне,
а крыва ты не рабі.
Ні ў якім вытворчым плане
адзнакі няма: «абы».

Абы — і пайшло ўсё пылам:
цяплінкі суніц, грыбы,
і немач дубы схапіла,
і плён не заўжды з сяўбы...

5

Звыкаем да слоў. Няйначай,
хапае каму вучыць.
Адзін паляшук — шмат бачыць,
шмат ведае,
шмат маўчыць.

Ён рады або не рады,
не скажа і сам сабе.
Цягае ваду на грады —
калодзеж усё глыбей...

З былога куп'я ды лозаў,
дзе коней каўтала гразь,
на трактары сена возіць,
усеўшыся, быццам князь.

А ў хаце сасновай гулкай
(другая пасля вайны)

няўтульна ўначы і мулка:
забралі спакой сыны.

Куды яны паляцелі?
У вёсцы ўсё менш двароў:
на хлеб
яна багацее,
бяднее на жыхароў.

Што ж, кожны свой хлеб здабудзе
на жытніх палях любых.
А песні якія будзе
ў застоллях спяваць чужых?

Ці схоча калі дахаты,
адчуўшы вандроўны смак?..
Нагадвае экскаватар
пытальнік — зацяты знак.

6

Пытальнікам — бусел белы
на вострай, крутой страсе:
каму пра яго балела?..
Адкажуць, бадай, не ўсе.

І я за яго ў адказе,
хоць мала — паспачуваць.
Цяпер трэба думаць разам,
а лепей — каб адчуваць.

Век доўгі або кароткі,
пытанняў не зняць, не збыць.
Якія мы будзем — продкі,
такім і нашчадку быць.

Уявім: не запанелы,
не чэрствы і не глухі,
а шчыры,
як бусел белы
на піку
крутой страхі.

7

Край мудрасці і спагады,
адвечны палескі край,
будзь велічны і багаты
і шчодрасці нам дадай.

Не раз ля тваёй сцяжыны
далоні нам распрастаць...
...На іх праступаюць жылы
атожылкамі ліста.

## ЗМЕСТ

### МОЙ ПОЎНАЎЛАДНЫ ВЕК

## БЛІЗКІЯ ЗАРНІЦЫ

## І ТОЛЬКІ СЭРЦА!..

## ГОЛАС ТРАВЫ

*Литературно-художественное издание*

Каско Александр Константинович

ПРИБЛИЖЕНИЕ

Стихи

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Каско Алесь Канстанцінавіч

НАБЛІЖЭННЕ

Вершы

Рэдактар Л. В. Дранько-Майсюк

Мастак Л. Б. Алімаў

Мастацкі рэдактар А. М. Малышава

Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч

Карэктар Л. П. Бялова

**Каско А.**

К 28 Набліжэнне: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 125 с.: іл.

ISBN 5-340-00196-2.

Каско А. Приближение: Стихи.

Лірычны герой вершаў Алеся Каско адкрыты ў сваіх перажываннях, паслядоўны ў сцвярджэнні высокай духоўнасці, шчырасці і дабрыні, часам схільны да самаіроніі.

У нізцы вершаў «Атожылкі», якая завяршае кнігу, асэнсоўваюцца пытанні экалогіі, што датычаць радзімы паэта — Палесся.

К $\frac{4702120202-001}{М\ 302(03)-89}$ 51—89 **ББК** 84 Бел 7